Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.



Цана асобнага нумару 60.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **480000** м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 75.000 мк., сярод тэксту 60.000 м. і на 4 стр. 50.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 17. Вільня, Серада, 12-га сьнежня 1923 г. Год I.



## Новы курс.

Старая гэта праўда, што пасьля пабеднае вайны ў кожнай дзяржаве адбываецца палітычны паварот *управа*.

Хто памятае расейска-японскую вайну, той ня можа не памятаць і аб тых „паражэнскіх“ настроях, што панавалі тады сярод лепшае часткі расейскага грамадзянства. Усе жадалі не перамогі над Японіяй, а якраз паражэньня Расеі, спадзяючыся, што толькі ваенныя няўдачы могуць прымусіць рэакцыйны царскі ўрад зрабіць уступкі народным дамаганьням у канстытуцыйным духу. І запраўды: вынікам нешчасьлівае для Расеі вайны быў 1905 год.

Няўдачы Расеі ў сусьветнай вайне давялі да зьніштажэньня расейскага царызму....

Паражэньне Нямеччыны на Заходнім фронце пазбавіла кароны Вільгэльма II і, замест манархізму, ператварыла Нямецкую дзяржаву ў дэмакратычную рэспубліку.

Наадварот: перамога антанты дала ў Італіі—фашызм, у Францыі—панаваньне „нацыянальнага блёку“, у Англіі—кансэрватыўны ўрад Бальдвіна, у Бэльгіі — захавала манархію. Урэшце у Польшчы, за прыкладам Францыі, ўлада перайшла да „хіена-пястоўскае большасьці“, роднага брата па духу рэакцыйнага францускага „нацыянальнага блёку“.

Здавалася, што ў-ва ўсей Эўропе пераможнікаў на доўгія гады ўмацуецца палітычная рэакцыя. Але жыцьцё доўга цярпець паварот назад ня можа: яно вечна імкнецца ўперад і ламае стаўляныя яму штучныя запоры.

Пачынаюць ламацца і тыя запоры, якія грамадзкаму поступу стаўляе ў дзяржавах антанты палітычная рэакцыя. Першы крок у гэтым кірунку мы бачым у Англіі.

Мы маем на думцы толькі што адбытыя выбары ў англійскі парлямант.

Выбары ў Англіі далі неспадзяваныя вынікі. Яшчэ напярэдадні выбараў уся нацыяналістычная і кансэрватыўная прэса суліла перамогу ўрадовай кансэрватыўнай партыі і яе прэм‘ера Бальдвіна. Тымчасам аказалася, што *кансэрватысты страцілі* з сваіх ранейшых 343 мандатаў *цэлых сто*, і *большасьці ў парляманце мець ужо ня будуць*. Затое вельмі *ўзмацаваліся левыя партыі*: лібэралы і „партыя працы“, якія цяпер разам мецімуць *большасьць*. Ясна, што дні кансэрватыўнага ўраду Бальдвіна—палічаны. Англія такім парадкам рашуча зьмяняе свой палітычны курс *улева*.

Дый трэба спадзявацца, што перамена палітыкі Англіі адаб‘ецца і на другіх дзяржавах Эўропы. А ў першы чарод, як нам здаецца, адаб‘ецца на Францыі.

Напярэдадні англійскіх выбараў француская прэса адкрыта прызнавалася, што паражэньне Бальдвіна будзе каштаваць прэм‘ерства Пуанкарэ. Болей таго: калі ў Англіі, як спадзяюцца, месца Бальдвіна ізноў займе Лейд-Джордж, дык францускі імпэрыялізм спаткае з боку Англіі моцны адпор, і павінна будзе зьмяніцца ўся сучасная ваяўнічая і процідэмакратычная француская палітыка. А гэта будзе банкруцтва „нацыянальнага блёку“—гнязда францускага імпэрыялізму і рэакцыі: на блізкіх ужо новых выбарах у францускі парлямант „блёк“ гэны будзе разьбіты. І мы спадзяемся, што над працьвярэзіўшайся ад „пабеднага ап‘яненьня“ Францыяй у недалёкай будучыні ізноў залунае *дух вялікага Жорэса*, забітага францускімі імпэрыялістамі.

Нікому не сакрэт, што сучасная „хіена-пястоўская“ рэакцыя ў Польшчы — гэта водклік, ці „адрыжка“ панаваньня „нацыянальнага блёку“ ў Францыі. І, гаворачы аб новым палітычным курсе ў Эўропе, мы ня можам не ўспамянуць тут і аб Польшчы. Перамена курсу ў Францыі, якая, пры сучаснай захватніцкай палітыцы, зацікаўлена ў падтрымліваньні Польшчы, як свайго ваеннага авангарду на Усходзе, выкліча перамену адносінаў французаў да Польшчы і да сучасных яе „паноў палажэньня“. І, пазбаўленая падтрыманьня звонку, вызваўшая агульнае абурэньне ўсіх народаў Польшчы, польская рэакцыя, зруйнаваўшая сваю дзяржаву і абрабаваўшая свой уласны народ, будзе прымушана зыйсьці са сцэны.

Абы толькі хутчэй!

## Вынікі выбарау у Англіі.

Мы ўжо пісалі аб вялікай, зусім асаблівай у сучасным палажэньні Эўропы, важнасьці адбываючыхся ў Англіі выбараў.

Цяпер ўжо ведамы іх вынікі, і мы маем права прачытаць у іх лічбах той адказ, які наймацнейшы, актыўнай воляй і палітычным розумам народ у сьвеце ангельскі—даў на тыя хатнія і сусьветныя пытаньні, якія паставіла перад ім сучаснасьць.

Бо мы ўжо пісалі, што, праводзячы выбары быццам толькі пад лёзунгам „протэкцыянізм—ці вольны гандаль“,—ангельскі выбаршчык будзе судзіць усю хатнюю і сусьветную палітыку ня толькі свайго ўраду, але, у зьвязку з ёй,—і наагул усю палітыку сучаснай Эўропы.

Але апрача гэтага палітычнага мамэнту, вялізарнай запраўды сусьветнай важнасьці зьяўляецца і сацыяльны мамэнт адбыўшыхся ангельскіх выбараў, зьвязаны з шырокім актыўным учасьцем у барацьбе з магутнай буржуазнай Англіяй яе, як пабачым, амаль ужо ня менш магутнага пралетарыяту, і яго нябывалая яшчэ нідзе ў сьвеце зусім мірная, але якраз дзеля таго найбольш трывалая, моцная і запраўдная перамога. Да гэтай перамогі ангельскай работніцкай клясы мы яшчэ зьвернемся, каб абгаварыць дакладна гэты, хаваючы ў сябе зусім нечаканыя магчымасьці ў сацыяльнай гісторыі сьвету факт. Цяпер толькі ўкажам на тое, што якраз можа Англія, як найстаршы палітычна і сацыяльна наймагутнейшы расава і эканамічна арганізм у сьвеце, запраўды мірна і спакойна вырашыць тую найважнейшую праблему вызваленьня працы і запраўднага народапраўства, праблему гаспадарственай улады працоўнае клясы, якія гэтак крывава і няўдала, бязьсільна мяшаючы рэвалюцыю з рэакцыяй, энтузыязм з ашуканствам, пекныя лёзунгі з брудна-агіднымі падзеямі,—усё бьецца і рвецца вырашыць голы і галодны, атручаны самазабойчай ненавісьцю эўрапэйскі контынэнт.

Ангельскія консэрватары пасьля году свайго ўрадаваньня йшлі на выбары магутнай парлямэнцкай арміяй у 346 пасольскіх мандатаў на агульную лічбу ніжняй палаты—615 комонэраў (паслоў), маючы гэткім чынам у палаце большасьць абсалютную ў 38 галасоў.

У выбарных баёх з гэтай арміі палягло, як можна лічыць (дакладных лічбаў яшчэ няма), круглая каля сотні галоў... Такія вялізарныя паражэньні—рэдкасьць наагул у парляманцкай гісторыі ўсіх краёў. Парляманцкая фракцыя (па польску—клюб) іх будзе лічыць каля 260 сябраў.

Ангельскія лібэралы лічылі ў парлямэнце 117 сваіх сябраў. Пасьля выбараў яны будуць мець у палаце 150 галасоў.

Партыя працы—Labour Party—мела ў апошняй палаце 144 сяброў, пасьля выбарнай вайны армія работнікаў ня толькі не парадзела, але наадварот—вярнулася дамоў павялічанай да 190 з чымсь чалавек!..

Вось які адказ даў на выбарныя пытаньні ангельскі грамадзянін.

Консэрватары йшлі на выбары, як мы ўжо ведаем, з лёзунгам протэкцыянізму і павялічэньня эканамічнай і ваеннай моцы і спайкі усей колёсальнай Вяліка-Брытанскай Імпэрыі. Апошняе і аддало ім галасы выбаршчыкаў. Але яны нясьлі за сабой год паніжэньняў для дзяржаўнае гордасьці Англіі і бязсільля перад дурной і шкоднай самаволяй п. Пуанкарэ. Гэткім разгромам, як трэба думаць, і асуджаецца гэтая палітыка ўступак і паніжэньняў а таксама адкідаецца протэкцыянізм—на карысьць папулярнага і выпрабаванага на векавым досьледзе вольнага гандлю. Нават сам Бальдвін перад самымі выбарамі зьвёў амаль не да нуля ўсю сваю протэкцыяністскую праграму, адмовіўшыся ад пошлінаў на важнейшыя прадметы апраўізацыі...

ня толькі свайго краю, але, як абвесьціў Макданальд,— на карысьць усіх народаў сьвету...

І гэты факт мо'—найвялікшай важнасьці...

С.

Вольны гандаль, за які — як лібэралы таксама і работнікі,—утрымаецца ў Англіі на далей.—Вось першы бязсумліўны вынік выбараў.

Асудзіўшы пасыўную эўрапэйскую палітыку ў адносінах да Францыі, выбары стварылі новы Парлямант, які будзе вясьці шмат больш актыўную і рашучую палітыку ў Эўропе. — За гэтае роўна выразна і красамоўна гавораць, імёны як Лейд-Джорджа, які можа лічыцца першым байцом, пабіўшым на выбарах Бальдвіна і Чэмбэрлэна, а таксама і лідэра Labour Porty Рэмсэя Макдональда, які ў сваіх прадвыбарных „штандартавых" артыкулах выразна высказаўся за рашуча актыўную ролю Англіі у разьвязаньні эўрапэйскага вузла, а перадусім франка-нямецкай споркі.

Ня можа быць ніякага пытаньня аб тым, на які бок стала-б новая рабоча-лібэральная Англія у гэтай недарэчна-самазабойчай спрэчцы;—Франкафілы Балдвін і Кёрзон, стаўшыя праз год „супрацоўніцтва" з п. Пуанкарэ заўзятымі франкафобамі, — яскрава кажуць аб гэтым. А якія магутныя меры і срэдствы, калі ўжо рашыцца, мае і знойдзе Англія для барацьбы з „небясьпечным для грамадзянства" п. Пуанкарэ, аб гэтым кажа векавая галоўная роля Англіі ў зваленьні ўсіх тых „дыктатараў Эўропы", якія зьяўляліся ў апошняй на усім працягу гісторыі—ад Філіппа II Гішпанскага аж да „нашага" Вільгэльма II і Апошняга... Што французкай гегемоніі надыйдзе канец, аб тым яскрава гавораць тыя нэрвовыя дрыжыкі, якія прабеглі ўжо па розных васалах і „ўбогіх сваяках" Францыі пры вестках аб выніках ангельскіх выбараў...

Але для таго, каб узяць у рукі ўладу і павясьці рашучую палітыку, трэба перадусім сфармаваць урад, абапёрты на выразнай і трывалай большасьці...

І вось тутака—самае слабае месца вынікаў ангельскіх выбараў: ні водная з канкураваўшых партыяў ня атрымала абсалютнай большасьці, а адносную большасьць маюць кансэрватары.—Значыцца—ні водная ня можа стварыць уласнымі сіламі ўраду...

Лібэралы могуць утварыць альбо коаліцыю направа, як гэта было нядаўна (юніянізм), альбо—налева, з Партыяй Працы, што зрабіла-б зусім новую эру ў парляманцкай і наагул сацыяльнай гісторыі Англіі...

Мы ня будзем варажыць, ў які бок нахіляцца лібэралы, — пачакаем лепей рэальных здарэньняў. Бо ёсьць даныя, як за правую таксама і за левую коаліцыю.

Адно аднак-жа бязсумліўна, што як у першай так сама і ў другой камбінацыі амаль ня першую ролю, у кожным выпадку адну з рашучых роляў, будзе іграць французаед, „палякажэрца" і—„савецкі ўгоднік"—Лейд-Джордж...

Гэтая няпэўнасьць, з прычыны амаль ня роўнасьці шансаў абедзьвюх камбінацыяй можа прывясьці і—да новых выбараў...

Ува ўсякім выпадку выбары паказалі такую магутную армію ў Англіі работніцкае клясы, якой няма бяз параўнаньня — ні ў водны сучасным гаспадарстве сьвета.—І гэтая армія арганізавана выходзіць на актыўную палітычную і сацыяльную працу—на карысьць ня толькі свайго краю, але, як абвесьціў Макданальд,—на карысьць усіх народаў сьвету...

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Пад кіраўніцтвам прэм. Вітаса адбылася вялікая нарада Фінансавай Рады, з учасьцем лідэраў урадовых клюбаў і міністраў. Разглядалася „найнавейшая" праграма мін. Кухарскага. На паседжаньні раскрылася значная розьніца паглядаў нават сярод сябраў „аб'яднанага" габінэту.

Якія зыгзакі дапраўды робіць пан мін. Кухарскі ў сваіх „праграмах", відаць хаця-б з таго, што, як піша „Kur. Pol.", п. Кухарскі крута зьмяніў свае думкі аб стварэньні эмісыйнага банку і прыняў той самы пагляд п. Х. Юнга, які сам толькі што адкідаў, ды йшчэ так рашуча, што выклікаў ад'езд п. Юнга з Польшчы дамоў.

Для ратаваньня скарбу віцэ-прэм'ер Корфанты зьвярнуўся нават да жыдоўскіх купцоў за „дабравольнай залічкай на падатак ад маемасьці. На нарадзе жыдоўскія купцы нагаварылі міністру шмат няведамых яму дагэтуль рэчаў аб адносінах улады да жыдоў. Мін. прасіў прадставіць мэмарыял аб жыдоўскіх жаданьнях. Тады ўжо патаргуюцца жыды з ім,—сколькі і за што можна даць.

„Naprzód" піша, што ў зьвязку са сьледзтвам па дзелу кракаўскіх крывавых падзей, усе вастрогі там так перапоўнены, што ўжо ня могуць памясьціць усё прыбываючых вязьняў. У галоўным вастрозе ў 30 пакляшторных кельлях сядзіць больш як 900. У другім сядзіць яшчэ 300. У трэцім, што разьлічаны на максімум 400 вязьняў, сядзіць аж 900! Ёсьць каморкі, ў якіх заместа 5 напіхалі па 30, ці нават па 50 чалавек!

У Сэнацкім Судзе распачалася вельмі цікавая справа сэн. Гамэрлінга (пястоўца), якому закідаюць, што ён у часе вайны быў у Амэрыцы вельмі актыўным агентам нямецкага аддзелу прапаганды і — неяк нявыразна пасьля набыў вялізарныя маемасьці ў заходняй Польшчы. Сэн. Гамэрлінг, як ведама, блізкі прыяцель п. мін. Кухарскага;—разам з ім езьдзіў надарма ў Лёндан па „пазычку" і „бясплатна", (як бажыўся ў камісіі п. Кухарскі), атрымаўшы толькі 1000 даляраў „на дарожныя кошты".

### Справа Яварыны.

6/12 Трыбунал Справядлівасьці выдаў рашэньне польска-чэскай споркі аб Яварыне, якая дагэтуль псуе адносіны паміж абодвума гаспадарствамі.

Гаазкі Трыбунал наагул прызнаў, што граніца паміж Польшчай і Чэхаславакіяй устаноўлена была аканчальна Конфэр. Паслоў 28/7—1920 г.

Гэта значыць, што Трыбунал прызнаў наагул тое, што цьвярдзіла Чэхія, а нэгавала Польшча.

Проці чэскай тэзы Трыбунал прызнаў толькі, што пры правядзеньні фактычна на месцу граніцы магчымы, і то толькі ў адным адрэзку ў Яварыне, дробныя зьмены, як бывае заўсёды, не нарушаючыя аднак-жа агульнай гранічнай лініі.

З гэтага ізноў вынікае практычная немагчымасьць зьдзейсьніць польскую прапазыцыю — замены яварынскіх гмінаў на польскія гміны на іншых адрэзках граніцы. Да таго йшчэ трыбунал адкінуў 2 дадаткавых дакуманта, на якія пазывалася Польшча, аставіўшы толькі тыя, што прадставіла Чэхія.

З гэтага ўсяго ясна відаць, наскалькі слушна цьверджаньне ПАТ'у, што „апінія Трыбуналу прызнала слушнасьць польскай тэзы". „Kur. Pol." выразна называе гэтую вестку афіцыяльнага агенства „фальшам".

## НЯМЕЧЧЫНА.

Амэрыканская пазычка для Нямеччыны на апразівацыю можа лічыцца запэўненай. Амэрыканскі ўрад напалову з прыватным капіталам дае Нямеччыне 70 міл. даляраў.

Паміж правадырамі надрэйнскіх сэпаратыстаў пайшлі спрэчкі: адстаўлены Mathes падаў французскаму камісару пратэст ці данос—проці ўтварэньня ўрада Дортэна.—Францускі генарал найлепей разсудзіць, хто з „незалежных" надрэйнскіх рэспубліканцаў мае рацыю.

У шмат якіх гарадох адбыліся вялікія галодныя дэманстрацыі безработных. У Кёльне, Бэрліне і інш. безработныя рабавалі лаўкі. Паліцыя колькіх параніла.

## ФРАНЦЫЯ.

Усе капальні вугля ў Рурскім басэйне падпісалі ўмовы з акупацыйнымі уладамі, згаджаючыся на заплату цяпер-жа 15 міл. даляраў вугальнага падатку, на аблажэньне 10 франк. кожнай тоны вугля і дастаўкі бясплатна 21 проц. усей здабычы французам.

Гэта значыць, што Пуанкарэ быццам перамог... і Нямеччына „дабравольна" пайшла на ўступкі. Але ці скарыстае Францыя з тэй перамогі, якая, ня кажучы ўжо аб Нямеччыне, нават Англію зрабіла ўжо аканчальна зусім выразным ворагам Францыі, дабіўшы да канца хворую Антанту.

## ТУРЦЫЯ.

У Канстантынопалі зарэгістравана чума.

## АМЭРЫКА.

Прэзыдэнт Амэр. Штатаў паводле канстытуцыйнага звычаю зьвярнуўся да Кангрэсу з гэтак званым „пасланьнем" (род праграмы... ці наказа для апошняга),

---

Я. Пачопка.

# Кармленьне малочнай каровы.

(Гл. „Змаганьне" № 6).

**Бялок** зьяўляецца з усіх іх найбольш сытным. Сытнасьць корму залежыць проста ад таго, колькі ён маець у сябе бялка. Без бялка ня можаць жыць ні чалавек ні скаціна. Найбольш бялка патрабуюць маладыя жывёлы, якім ён патрэбен для росту цела. Вось дзеля гэтага маладым жывёлам заўсёды, каб яны лепей расьлі, даюць найболей таго корму, які маець у сябе многа бялка (найчасьцей авес і вотрубі).

Бялок, які знаходзіцца ў корме, падобен да бялка курынага яйка.

Жывёлы патрабуюць, каб у корме апроч бялка былі і другія спажыўныя часткі, якія патрэбны ім для жыцьця і падтрыманьня цела; гэта—цукер, крахмал і алей.

**Крахмал і цукер** ідзець у жывёлы на падтрыманьне цяпла, а таксама на сала. Дзеля гэтага, тым жывёлам, якія адкармліваюцца на сала, трэба даваць найболей корму багатага крахмалам або цукрам. Крахмалу, як і бялка, найболей ёсьць у зярнятах збожжа, але яго таксама ёсьць шмат у бульбе; у цукровых бураках, моркве і грыжыне даволі ёсьць цукру. Той цукер, з якім мы п'ём гарбату, робіцца з буракоў. Крахмал ёсьць у сене, саломе, мякіне і ў іншых кормах, але мала.

Цукер і крахмал надта падобны па сваей сытнасьці і могуць замяняць адзін другога. Гэта зразумела з таго, што крахмал пры некаторых варунках перарабляецца у цукер. Напрыклад, з бульбянога крахмалу робяць сыроп, мёрзлая бульба робіцца салодкай ад таго, што крахмал ад марозу перарабіўся ў цукер. Крахмал і цукер надта лёгка ператраўляюцца трыбухамі каровы.

**Алею** ў корме малочная карова патрабуець мала. Многа алею ў корме нават зусім не пажадана, бо ад гэтага карова можаць падупасьці на жывот. Найболей алею знаходзіцца ў зярнятах лёну, канаплёў, рапсу, хоць ёсьць яго досыць і ў збожжы.

Апрача бялка, крахмалу, цукру і алею суш корму мае йшчэ дзерава, якое бадай што ня маець ніякай сытнасьці, а наадварот робіць яго меней *страўным*.

**Дзерава** надта многа ёсьць у саломе, сене, мякіне. Дзякуючы прысутнасьці дзерава, гэты пошар надта грубы і цьвёрды. Найболей дзерава ёсьць у жытняй саломе, ад чаго яна і лічыцца зусім дрэнным кормам. Чым пазьней скошана сена, тым болей яно маець дзерава і тым меней яно сытна. Зусім мала дзерава ёсьць у бульбе, бураках і маладой траве; нямнога так-сама ёсьць яго ў зярнятах збожжа.

Ніжэй мы падаём табліцу, ў якой паказана колькі маюць сто фунтаў ($2\frac{1}{2}$ пуды) аднаго корму бялка крахмалу і дзерава.

| Названьне корму | Сто фунт. корму маюць фун. | | |
|---|---|---|---|
| | Бялка | Крахмалу | Дзерава |
| Сена добрае лугавое | $3\frac{3}{4}$ | 25 | 15 |
| „ дрэннае „ | $2\frac{1}{2}$ | 19 | $15\frac{1}{2}$ |
| Атава: з добрых лугоў | $5\frac{1}{2}$ | $26\frac{1}{2}$ | 14 |
| Асянча (сена балотнае) | 3 | 21 | 15 |
| Канюшына добрая | $5\frac{1}{2}$ | 26 | 11 |
| Салома ячменная | $\frac{1}{2}$ | 19 | 21 |
| „ аўсяная | 1 | $16\frac{1}{2}$ | 20 |
| „ жытняя | $\frac{1}{2}$ | 13 | 22 |
| Гарохавіны | $3\frac{1}{2}$ | $18\frac{1}{2}$ | 13 |
| Віка | 3 | $15\frac{1}{2}$ | 16 |
| Мякіна ячменная | $\frac{1}{2}$ | 17 | 14 |
| „ аўсяная | $1\frac{1}{2}$ | 19 | $13\frac{1}{2}$ |
| „ жытняя | $\frac{1}{2}$ | 11 | 22 |
| „ гарохавая | $3\frac{1}{2}$ | 20 | 15 |
| „ льняная | 1 | 13 | 12 |
| Збожжа: жыта | 7 | 66 | $\frac{3}{4}$ |
| „ ячмень | 8 | $62\frac{1}{2}$ | $1\frac{1}{3}$ |
| „ авёс | 7 | 44 | $2\frac{1}{2}$ |
| „ гарох | 16 | 50 | $2\frac{1}{2}$ |
| „ боб | $19\frac{1}{3}$ | 44 | 4 |
| Бульба | $\frac{1}{10}$ | 19 | — |
| Буракі | $\frac{1}{10}$ | $8\frac{1}{2}$ | $\frac{1}{3}$ |

Углядаючыся ў гэтую табліцу, адразу можна заўважыць, што чым горшы корм, тым менш маець ён у сябе бялка і крахмалу, а найбольш маець дзерава. Калі мы возьмем для параўнаваньня аўсяную і жытняю салому, дык убачым, што аўсяная салома лічыцца ў гаспадароў лепшай дзеля таго, што яна маець болей бялка і крахмалу, а менш дзерава.

Усім вядома, што найлепшы корм зярняты. Калі мы глянем на табліцу, дык адразу зразумеем, чаму гэта так: яны ў колькі разоў маюць больш бялка і крахмалу, чым салома або сена, і ў многа разоў менш дзерава.

З усяго сказанага ясна кажнаму, што для падтрыманьня жыцьця і на вырабатак мяса і малака жывёле патрэбны бялок, крахмал, цукер, алей і дзерава. Найболей дарагім з усіх іх ёсьць бялок, якога заўсёды мала дастаець вясковая карова.

Дзерава само па сабе, хоць і мае малую вартасьць, як корм, але бяз грубага корму, які маець шмат дзерава, абыйсьціся ня можна. Ён патрэбен карове, каб напоўніць яе трыбухі.

**Падзел пошару на групы**. Залежна ад таго, колькі сыці і вады маець той ці іншы корм, увесь пошар разьдзяляюць на тры групы. Да першай групы залічаюцца ўсе кормы, якія ў сваім складзе маюць многа дзерава і адносна мала сыці. Гэта група **грубога або цяжкога пошару**. Другую групу складаюць кормы, якія ў сваім складзе маюць мала вады і дзерава, а болей сыці: зярняты, мука, вотрубі, клінцы і збожжа. Гэта — **сытны або лёгкі пошар**. Да трэцяй групы адходзяць кормы, якія маюць шмат вады (бульба, буракі, морква і г. д.); гэта **сыры пошар**.

Разгледзім кожную групу пошара крыху бліжэй і пазнаёмімся лепей з тымі кормамі, якія ўваходзяць у кожную групу.

**Грубы пошар**: сена, салома і мякіна. Як было казана раней, яны маюць у сваім складзе многа дзерава і меней сыці.

**Сена** (палявое і лугавое). Сена павінна давацца карове сьвежае, зялёнае, не заплясьнелае і ня тухлае. Тухлае, або заплясьнеўшае сена нядобра адзываецца на малацэ і на здароўі каровы, а найгорш яно шкодна ў часе цельнасьці, калі ад гэткага сена карова можа скінуць цялё. Вартасьць сена залежыць ад таго, калі яно скошана і якая трава ў яго ўваходзіць. Апрача часу, калі кошана сена, маець йшчэ вагу і тое, у якую пагоду сена сабрана з поля. Самае лепшае сена можа быць нічога ня варта, калі яно доўга паляжыць пад дажджом, або падгніець у стагох. Маладое сена, скошанае ў час красаваньня сенажаці, у два разы сытней за старое сена, кошанае тады, калі часьць травы ўжо пасохла. Гэтае сена маець ужо адносна шмат дзерава. У добрым сене не павінна быць такой травы, як сьвінуха, асака, казлы, сітнік, хвашчэўнік і інш. Гэтая трава ня толькі мала сытная, але нават і шкадлівая для каровы.

**Балотнае сена** (асянча). Гэты корм амаль што самы горшы і даваць яго малочнай карове мы ня радзілі-б. Ад яго заўсёды псуецца малако. Малако бывае або горкае, або скора садзіцца, або не разьбіраецца сьмятана—і ня зьбіваецца масла. Замест асянчы лепей даваць карове ярную салому.

у якім падае агульныя дырэктывы загранічнай палітыкі Амэрыкі.

Пасланьне гэтае падцьвярджае, што падставай гэтай палітыкі зьяўляецца выпрабаваная ўжо ў працягу 100 гадоў г. зв. „доктрына Монрое“, — „Амэрыка для Амэрыканцаў“,—якая палягае на тым, каб не мяшацца да спраў эўропэйскіх, але затое не дапушчаць і да ўмешываньня—ў справы Амэрыкі (нават і палуднёвай).

Амэрыка абяцае памагаць Эўропе, але сама паставіць варункі гэтай дапамогі. Амэрыка, як і дагэтуль, ня ўвойдзе ў Лігу Народаў, пакуль у яе ня будуць прыняты ўсе народы.

Пасланьне вельмі прыязна гаворыць аб саюзе Сав. Рэспублікаў, але ставіць таксама варункі яго ўраду, для атрыманьня маральнай і матар'яльнай дапамогі з боку Штатаў яе народам.

Пасланьне кажа, што Амэрыка не зрачэцца эўрапэйскіх даўгоў, што Францыя павінна атрымаць ад немцаў заплату, але і Нямеччына мае права на вольнае гаспадарчае адраджэньне.

# З Польскага Сойму.

## У соймавых камісіях.

Аб'яднаная лявіца рашуча пачала атакаваць хьена-пястоўскі ўрад адзіным фронтам. На апошнім паседжаньні адміністрацыйнай камісіі пасол Прагер (P.P.S.) рэфэраваў цэлы рад запросаў і прапазыцыяў, датычачых пагвалчэньняў урадам і яго мясцовымі агентамі забясьпечаных канстытуцыяй грамадзянскіх вольнасьцяў.

Дакладчык нарысаваў шырокі і яскравы абраз тых гвалтаў якія чыняцца паліцыяй і адміністрацыяй над грамадзянамі Рэспублікі, пералічыў арышты грамадзянаў—*палякоў*, канфіскаты кракаўскіх і варшаўскіх *польскіх* газэтаў; арышты наагул адбываліся зусім няпраўна—без загаду судовае ўлады; канфіскаты былі часам зусім недарэчныя, амаль гумарыстычныя, як напрыклад, канфіската „юбілейнага“ (25 канфіскатаў!!), нумару „Naprzodu“—з 4 белымі старонкамі.

У канцы дакладчык запрапанаваў прыняць „wniosek“ апазыцыйных клюбаў, дамагаючыся ад ураду ўнясеньня ў Сойм законапраекта аб забясьпечаньні грамадзянскіх правоў і выражэньні асуджэньня рэпрэсыяў адносна да апазыцыйнай прэсы.

Прадстаўнік ураду—чыноўнік мін. ун. спраў (заместа міністра!..)—ня мог нічога адказаць на фактычную частку дакладу і нават ня меў нічога проці першага „wniosku“, але на абарону „прэсьціжа“ ураду падняласяя ўрадовая большасьць камісіі, і прапазыцыя, каб урад апрацаваў і прадставіў у Сойм законапраект аб забясьпячэньні грамадзянскіх свабод, якія проста *прадугледжаны ў Канстытуцыі, як абавязковы*—была правалена большасьцю 2 галасоў...

Дапраўды, як кажа „Kur. Polski“, *палітычная дэмаралізацыя* „большасьці“ дайшла да апошніх граніц... Гэта ўжо другі раз, калі ў камісіі Польскага Сойму ня толькі галасуецца, але і праваліваецца ясны і выразны артыкул Польскай Канстытуцыі...

Цікава яшчэ, што прамоўцы большасьці крыўдзіліся на лявіцу за вастрату крытыкі, а адзін пястовец дык нават сказаў вельмі характэрную фразу, якую варта памятаць:—„Калі маем так весьці барацьбу, дык ужо лепш *кінемся адзін на аднаго... — хто каго загрызе...* Тады—хто пераможа, будзе спакойна гаспадараваць у Польшчы“...

Можа запраўды гэтага якраз і жадае Хьена-Пяст, і да таго вядзе ўсё яе „лютаслаўскае“ законадаўства...

Трэба з зьдзіўленьнем адзначыць яшчэ і тое, што ня гледзячы на нейкае „паразуменьне“ клюбаў лявіцы з клюбамі нацыянальных меншасьцяў, у дакладзе п. Прагера ані водным словам ня ўспомнена аб арыштах, напр. беларускіх дзеячоў, ні аб канфіскатах беларускіх, ці іншых „інародцаў“,—газэтаў і другіх выданьняў... Што гэта значыць? ці—у „адзіны фронт“ лявіцы яшчэ не ўвайшлі клюбы меншасьцяў, ці нашыя паслы не здалелі яшчэ зрабіць запросаў аб арыштах і канфіскатах, каб у патрэбны час даць матар'ял для дэманстрацыі таго „адзінага фронту“, па якому аднолькава б'е ўрад Хьена-Пяста...

Чаму, напрыклад, ня зроблена дасюль запытаньня аб канфіскаце кніжкі „Працэс 45 беларусаў у Беластоку“...

Калі нейкае паразуменьне запраўды істнуе, дык варта ўжо—„getrennt marschirend, zusammen selagen“!..

# З газэт.

## Добрыя пажаданьні.

У эндэцкай „Gazecie Warszawskiej“ знаходзім гэткую характарыстыку польскае адміністрацыі на „Kresach Wschodnich“:

> Як некалі мы пасылалі на ўсход неспакойных авантурнікаў, так цяпер першыя арганізатары нашае дзяржавы пасылалі туды абдзіралаў („łupieżców“). Усе весткі, якія дагэтуль стуль ішлі, рысавалі абраз адміністрацыйнага развалу, палітычнае нядбайласьці і гаспадарчага рабунку“.

Далібог, праўда: так і сказана па польску:

> „obraz administracyjnego rozstroju, politycznego niedbalstwa i gospodarczej grabieży“....

З гэтага газэта робіць вывад:

> Іменна там, на „крэсах“, дзе адносіны мяшанае люднасьці раздражненыя, дзе для самаволі істнуе шырокі прастор, дзе кантроль над мясцовай уладай трудны дзеля самае далечыні,—там трэба ўсе адказныя становішчы абсадзіць людзьмі *з чыстым сумленьнем і з чыстымі рукамі.*

Мы падчырківаем апошнія словы, бо яны сьцьвярджаюць, што дагэтуль на „крэсах“ людзей „з чыстым сумленьнем і з чыстымі рукамі“ ня было. І ня дзіва: іх не хватае ў сэрцы Польшчы,—дык як жа іх маглі-бы адпраўляць у ссылку на „крэсы“? Бо, як кажуць „прыяцелі“—французы, найхарашэйшая дзяўчына ня можа даць больш таго, што мае....

Усё-ж такі думка ўрадовае газэты аб патрэбе „чыстага сумленьня“ і „чыстых рук“ у нашай адміністрацыі — дужа пахвальная. Ня менш пахвальная і думка органу кракаўскіх консэрватыстаў, згуртаваных каля газэты „Czas“. Гэтая газэта сьцьвярджае, што „каталіцкая“ Польшча дужа далёка адыйшлася ад асноўных вымаганьняў *хрысьціянства*:

> Мы ня бачым іншага спосабу радыкальнага аздараўленьня палажэньня, як у павароце да тых забытых хрысьціянскіх ідэалаў, якія павінны легчы ў аснову фармаваньня ўсяго нашага жыцьця сфэры прыватнай і публічнай, а, значыцца, і ў эканамічнай, сацыяльнай, палітычнай, міжнароднай...

На вялікі жаль, пажаданьне „Czasu“ ў краю, дзе „*хрысьціянская*“ дэмакратыя схаўрусавалася з нацыялістамі і вядзе палітыку *зьніштажэньня* слабейшых народаў, дзе *каталіцкі ксёндз* (Лютаслаўскі) піша законы аб пазбаўленьні беларускага народу яго зямлі і аддачы польскім асаднікам, дзе зусім адкінута дзясятая Запаведзь, — гэта толькі пусты гук, які адаб'ецца ад вушэй вельмі „хрысьціянскіх“ паноў палажэньня, як гарох ад сьцяны... Яго лёс, мусіць, будзе якраз такі самы, як пажаданьне эндэкаў аб „чыстым сумленьні“ і „чыстых руках“....

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ХРОНІКА.

**Вечарына**. У нядзелю 9 гэтага сьнежня ў залі Беларускага Гімназіі (Вострабрамская 9), стараньнем Гуртка беларускіх кабет была наладжана вечарына на карысьць белерускага прытулку. Пасол кс. А. Станкевіч прачытаў лекцыю на тэму „Беларуская мова ў школах XVI і XVII сталецьцяў“, якая выклікала вялікае зацікаўленьне. Пасьля была пастаўлена п'еса Л. Родзевіча „Зьбянтэжаны Саўка“. Пьеса зрабіла добрае ўражаньне. Артысты - аматары добра згулялі свае ролі.

---

**Салома**. Найлепейшая салома для кармленьня каровы гэта ярная: аўсяная і ячменная, калі толькі яна сухая і не падгніла. Жытняя салома ўжо шмат горшая на корм. Яна маець зашмат многа дзерава і зусім мала сыці. Трыбухамі каровы жытняя салома ператраўляецца надта цяжка. Лепей даваць жытнюю салому рэзкай і перад даваньнем карове запарываць.

**Мякіна**. Мякіна па сытнасьці лічыцца лепшым кормам, чым салома: мякіна мягчэй за салому, і часта ў мякіне нават бываюць зярняты. Найлепшая мякіна—аўсяная. Ячменную мякіну можна даваць толькі запараную, бо ад асьця можа быць запаленьне языка і роту, або карова можа забіць ёй кніжку, ад чаго здохнець.

**Сытны або лёгкі пошар**: вотрубі, клінцы, аўсянка, мука. Бяз гэтага пошару няма як абайсьціся пры кармленьні малочнай каровы, бо ён патрэбен для вырабатку малака. Колькі-б мы не давалі адных грубых кормаў, усё роўна карова ня дасьць многа малака, калі мы не дадзём ёй лёгкага корму.

**Вотрубі** ёсьць тая шалуха, якая застаецца ад збожжа, калі яго пітлююць ці абдзіраюць на млыне. Чым горш абдзіраюць жорны зярняты, тым лепшыя вотрубі. Добрыя вотрубі павінны быць досыць крупныя, белыя, або крыху жаўтаватыя. Цёмны колер паказвaець, што ў вотрубях многа пылу, зямлі, або што яны ўжо бадзялыя. Купляючы вотрубі ў краме, трэба глядзець, каб не ашукацца. У прадажных вотрубях шмат бывае пяску, і ня дзіва знайсьці ў іх і такія рэчы, як цьвякі ды каменьні.

Каб пазнаць, добрыя вотрубі ці не, трэба зрабіць так. Узяць жменю вотрубяў і ўсыпаць у шкляку з вадой. Добрыя вотрубі зараз-жа асядуць на дно, ня робячы муты і ня плаваючы па вадзе, як гэта робяць дрэнныя вотрубі. Вотрубі бываюць пшанічныя, жытнія і ячменныя, уважаючы ад якога збожжа паходзяць. Найлепшымі лічацца пшанічныя вотрубі, а найгоршымі—ячменныя.

Вотрубяў можна даваць карове ў суткі да 12 фунтаў. Найлепей даваць іх зусім сухімі, або тугім цестам. Ніколі ня варта даваць іх пойлам.

**Клінцы** (жмыхи, makucha)—надта добры корм для малочнай каровы. Клінцы гэта ёсьць астатак зярнятаў сланэчніка, лёну, канопляў, рапсу і іншых расьлінаў, якія маюць шмат алею, пасьля таго як з іх на фабрыках выціскаюць алей. Прадаюцца клінцы шырокімі пернікамі. Найлепшыя клінцы сланэчнікавыя і какосавыя; льняныя—крыху горшыя. Ня трэба толькі карове даваць рапсавых клінцоў: ад іх робіцца горкім малако.

Даваць клінцоў можна 3—4 фунты ў суткі на адну карову. Перш чым даваць карове клінцы, іх трэба палажыць і стаўчы на дробныя кусочкі, бо інакш карова іх ня зможа есьці. Нават ёсьць асобныя машыны малоць клінцы. Можна проста клінцы размачаваць у вадзе і даваць карове іх цестам.

**Сыры пошар**: зялёная трава, буракі, морква, бульба, рэпа і інш.

**Зялёная трава** бадай што ёсьць найлепшы малочны корм. Доказам гэтага ёсьць тое, што, як толькі карова выйдзе вясной на траву, дык адразу павялічываецца малако і наадварот, малака збаўляецца, як толькі карова станець у хлеў. Калі ўлетку няма добрай пашы, дык трэба сеяць для кароў у полі кусок вікі, або кармовай кукурузы (конскі зуб).

**Буракі, морква і рэпа**, як малочны корм надта дарагія. Яны ня толькі павялічываюць удой, але паляпшаюць само малако. Кожны, хто хоча мець ад сваіх кароў зімой многа малака, павінен развадзіць на полі або ў гародзе як можна болей буракоў. На корм скаціне сеюцца так званыя „быдловыя“ буракі, морква і рэпа. Адрозьніваюцца яны ад гародных сваім шмат большым ростам. Добры быдловы бурак важыць фунтаў 10 — 15, а морква фунтаў 5. Рэпа можа быць вагай у паўпуда. Даваць буракоў, морквы, рэпы можна карове да пуда ў суткі.

**Бульба** — лічыцца ўжо горшым кормам для малочнай каровы, як буракі ці морква. У сваім складзе бульба маець галоўным чынам крахмал, які больш спрыяець нарастаньню сала і лою ў жывёлы, чым вырабку малака. Калі ў гаспадарцы няма буракоў, дык замест іх варта даваць карове фунтаў 10—15 бульбы.

Кормячы карову бульбай, трэба быць надта асьцярожным. Перш чым даваць бульбу, трэба яе вымыць ад пяску. Цэлую бульбу даваць карове ня можна, бо карова надта лёгка можаць удавіцца. Ня можна таксама даваць карове гнілую або мёрзлую бульбу. Ад гэтага карову можаць уздуць, а цельная карова лёгка можаць скінуць. Даецца бульбы ня больш 15 фунтаў у суткі на адну карову.

**Як які корм даецца карове.** На пералжаваньне і на ператраўленьне ўсякага корму ідзець праца цела каровы. Праца гэта бярэцца таксама з корму, зьедзенага каровай. Каб аблегчыць карове працу з аднаго боку і каб зрабіць корм болей страўным, некаторыя кормы перад тым, як даваць іх карове, запарываюць, рэжуць або квасяць.

Грубы пошар: сена і ярная салома, калі яны толькі сьвежыя, даюцца карове так, як яны ёсьць. Жытнюю салому лепей было-б зусім не даваць карове, а калі прыходзіцца даваць, дык лепей яе даваць сечкай і запарыўшы. За 1—2 дні, як даваць карове, саламяную сечку заліваюць гарачай вадой і часамі пасыпаюць мукой і сольлю.

Саламяную сечку рэжуць на асобных машынах, якія называюцца „сячкарнямі“, а то проста рэжуць салому касой на зробленым самім гаспадаром варштаце.

Запарываць трэба абавязкова і ячменную мякіну, перш чым даваць яе карове. Запараную мякіну і сечку можна даваць з мукой, або з бульбай. Запарываньне робіцца ў цэбрах, кадушках, а то ў зьбітых наўмысьля дзеля гэтага скрынках. Запарка робіцца так. За дзень або два мякіна ці сечка абліваюцца гарачай вадой і пасудзіна шчыльна накрываецца зьверху. Замочаная мякіна саграваецца і цераз дзень-два ў ей знаходзіцца прыемны кіславаты пах. Найлепей для запаркі мякіны зрабіць з досак вялікую скрынку і падзяліць яе перагародкамі на тры часьці. У той час, як дзьве каморкі запарываюцца, трэцяя апаражняецца і зараз насыпаецца мякінай ізноў і запарываецца. Кожная каморка скармліваецца па парадку.

Трэба зазначыць, што ад запаркі ў корме не павялічваецца сыці, але ад гэтага корм лепей ператраўляцца і карова паядаець яго з лепшым смакам, а дзеля гэтага запарка корму карысна.

Буракі, рэпу і моркву трэба даваць сырымі і цэлымі. Сьпярша карова надта няскора есьць цэлыя буракі, але з часам, як прывыкнець, дык спраўляецца з імі зусім лёгка. Толькі тады, калі карове даваць многа буракоў (фунтаў 100 і болей у суткі) іх трэба рэзаць. Трэба толькі буракі мыць, перш чым даваць карове.

Таксама лепей даваць карове і сырую бульбу. Варыць бульбу трэба толькі тады, калі яе даецца карове ў суткі больш 30 фунтаў. Ад такой вялікай данкі сырой бульбы робіцца малако надта рэдкім і часта горкім. Вараная бульба лепей ідзець на рост сала, чым на малако, а дзеля гэтага, калі бульбы даецца няшмат, лепей бульбу даваць сырую.

Клінцы, перад тым як даваць карове, можна размачыць у вадзе, бо калі іх даваць дрэнна стоўчанымі і сухімі, дык у каровы можаць захварэць язык. Размачаваць клінцы трэба ў той самы дзень, як іх даюць карове, бо інакш яны сапсуюцца (згарчаюць) і карова ня будзе есьці.

Прафэсар Лейпцыгскага унівэрсытэту д-р Макс Васмер зьвярнуўся да беларускага Грамадзянскага Сабраньня з просьбай выслаць для Славянскага інстытуту пры унівэрсытэце беларускую літэратуру і літэратуру ў чужых мовах аб Беларусі і беларусах.

8 гэтага сьнежня ў Беларускім Грамадзянскім сабраньні адбылася лекцыя ксяндза-прафэсара Язэпа Рэшаця на тэму: „Візантыйская цывілізацыя і яе ўплыў на іншыя народы“ прыблізна па гэткай праграме: Цывілізацыя Візантыйская: яе зьмест і ўплыў гістарычны. Элемэнты, складаючыя Ц. В.: гэлінізм, раманізм, хрысьціянізм, усход. Уплыў гістарычны Ц. Віз. на народы ад яе залежныя, асабліва славянскія. Карысьць студыяў Цыв. Віз. адносна да фармацыі народу і выгляду культуры беларускай.

**Забарона выезду заграніцу вайскова-абавязаных.** Варшаўскае Міністэрства Унутраных Спраў выдала распараджэньне, забараняючае выяжджаць заграніцу мужчынам у веку рэкруцкім, ад 17 да 28 гадоў. Кожны выезд павінен быць абаснаваны спэцыяльным доказам яго канечнасьці і неабходнасьці. Канечнасьць выезду на студыі навуковыя ўматывовывае Міністэрства Прасьветы. Кожны мужчына, здольны да вайсковай службы, павінен мець, выяжджаючы заграніцу, дазвол адпаведнай вайсковай улады (Powiatowa Komenda Uzupełnień). Трохі нібы лагадней маюць быць трактаваны вайскова абавязаныя мужчыны ў веку ад 28 да 50 гадоў (а ахвіцэры да 60 гадоў).

**Вынятка з пісьма Рыўкі Мускат, якая выехала да Амэрыкі на параходзе „La Land“ параходнага Т-ва „Red Star Line“ (Вільня, Вялікая 80) да** брата Язэпа Муската ў Вільні, Базыльянская 6, кв. 19).

„Увесь час на параходзе я чулася дужа добра і зусім здаровай. Есьці давалі пад дастаткам колькі і чаго хто хацеў. Сталаваньне складалася з розных патраваў: так напр. на сьнеданьне давалі: каву, 2 яйкі, масла, селядцы, галяндэрскі сыр, бульбу. Цукерніцы з цукрам былі растаўлены па ўсіх сталох. Усякі еў тое, што яму падабалася. На абед давалі: зупу, мяса, рыбу, кашу, кампот. Больш заставалася, чым зьядалі.

Можаш зайці ў кантору „Red Star Line“ і падзякаваць іх за тое, што я вельмі задаволена падарожай. Спалі ў чатырох у аднэй каюце, пры гэтым кожны меў асобнае ложка, на якіх былі белыя сяньнікі, пакрытыя чыстымі посьцілкамі і пекнымі коўдрамі. Адным словам — чыста, апратна, ўсё, як найлепш“.

# Да нашых чытачоў і падпішчыкаў.

**ГРАМАДЗЯНЕ!** Дарагоўля усё расьцець і расьцець. Выдаткі на паперу і на складаньне газэты павялічыліся ў некалькі разоў. Цяжка весьці нашую газэту ў сучасны момант. Ад канфіскатаў яе з боку ўлады мы церпім значныя убыткі, а тут яшчэ забівае нас усё узрастаючая дарагоўля.

**ГРАМАДЗЯНЕ!** Не дапусьціце да спыненьня нашае газэты! Падтрымлівайце ахвярамі на фонд „Змаганьня“ сваю адзіную беларускую газэту ў межах Польшчы. Ня дайце ёй загінуць!

З прычыны дарагоўлі мы прымушаны былі павялічыць на гэтых днях цану асобнага нумару да 60.000 м. п. і падпіску на месяц да 480.000 м. п. Просімо нашых сталых падпішчыкаў у зьвязку з гэтым пасьпяшыцца выраўняць месячную плату за сьнежань і адначасна, не чакаючы канца месяца, прысылаць падпісную плату на студзень 1924 г.

Падпішчыкам, якія не разрахуюцца акуратна з адміністрацыяй „Змаганьня“ за час да 1 студзеня 1924 г., будзе спынена высылка газэты.

Ведаем добра мы, што ня кожнаму нашаму падпішчыку лёгка прысылаць адразу грошы за 2 або 3 месяцы наперад, а то нават і на адзін месяц. Цяжка падпісацца аднаму, дык згаварывайся з суседзямі і выпісывайце ўскладчыну, а то ўсей вёскай, як гэта робіцца ў нас ужо шмат дзе. Ведаем, што з прычыны злой волі некаторых паштавікоў падпішчык тэй ці іншай вёскі неакуратна атрымлівае нашую газэту, альбо з значным спазьненьнем. Паведамляйце-ж нас аб гэтым, каб мы тут маглі прыняць адпаведныя крокі да спыненьня гэтых злачынстваў, але ня траціце духа і ня спыняйце сваіх шчодрых ахвяраў. Памятайце, што нашую газэту чытаюць ў Сойме і ў Сэнаце, што ідзець яна і заграніцу, ў Амэрыку, што яна ўсюды выводзіць на сьвет балячкі жыцьця беларускае вёскі і самага захудалага нашага мястэчка.

Пішыце-ж аб усім, што дзеецца у вас, не шкадуйце ахвяр на адзіную агульна-нашую беларускую тут газэту!

Ведайце, што ня з мэтай спэкуляцыі, ня ў мэтах нажывы для сваіх супрацоўнікаў істнуе нашая газэта. Як вы праканаліся ўжо, чытаючы яе, *мэта нашае газэты ў тым, каб змагацца за праўду, справядлівасьць, кад усякае ліха і зло караць сьмелым грозным словам, каб бараніць ад бясправўя працоўны народ, мазольныя рукі, каб весьціць яго вялікую праўду справядлівага ладу на сьвеце.*

У імя гэтай праўды вядзём мы барацьбу за волю, за зямлю, за права і за хлеб штодзенны для работнікаў і ўсяго працоўнага люду. Мы сьмела глядзім будучыне ў вочы.

Памагайце-ж, дарагія браты, каваць разам нашую лепшую агульную долю! Няхай запраўдная еднасьць „Змаганьня“ ў ідэі і ўва ўзаемным падтрымваньні станецца моцнаю і сталаю.

*Падпіску прысылайце зараз-жа, неадкладна*, бо ўсё штотыдзень даражэе амаль не ўдвая: што можна купіць цяпер, таго немагчыма купіць заўтра.

*Кожны з вас павінен прыдбаць нам хоць-бы аднаго сталага і акуратнага падпішчыка*, тады і ў новым годзе газэта нашая будзе выходзіць таксама акуратна, як і дагэтуль.

## Весткі з вёскі.

### М. Глыбокое.

Нядаўна ў Глыбокім адбыўся сход жыхароў двух абводаў мястэчка, на якім быў прадстаўнік магістрату. Абмаўлялася справа адкрыцьця ў Глыбокім 7-клясовай беларускай школы. Патрэба беларускай школы вялікая, бо ў цэлай Дзісеншчыне няма ніводнае беларускае школы, а польскія ўсе пустыя. Цяпер магістрат ня хоча даць пасьведчаньня, што жыхары Глыбокага жадаюць школы ў роднай мове. Зьвяртаемся да Цэнтр. Бел. Школьнай Рады—памажэце.

**Жыхары м. Глыбокага.**

## Пісьмы у Рэдакцыю.

I.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар*!

Не адкажэце зьмясьціць у Вашай часопісі маю ацэнку рэдагуемай Вамі газэты. Газэта цяпер прыходзіць крыху акуратней, як пры ўрадзе Сікорскага. Калі які тыдзень няма газэты, дык я хварэю, а суседзі сяляне не даюць супакою, бо толькі праз газэту мы ведаем аб працы нашых беларускіх і украінскіх паслоў у Сойме. Газэта „Змаганьне“ вельмі добра высьвятляе ўсе балячкі нашай нядолі і, чытаючы яе, ажно адпачываеш. Далёка лягчэй становіцца на сэрцы, як даведаешся, што тое самае кепскае, сучаснае прыгнечаньне адчуваецца ўва ўсякай душы беларускага як сяляніна, так і інтэлігента. Ажно сьпіцца спакайней, як прачытаеш сваю родную газэту „Змаганьне“. Прасіў-бы толькі я некаторых паноў супрацоўнікоў пісаць трошачкі працьцей, бо некаторыя стацьці вельмі мала разумеюць сяляне. Іх вялікія думкі яны выкладаюць на паперы вельмі высокапарна. Трэба трошкі прыхіліць газэту да сялян і тады яна яшчэ больш будзе пашырацца. У гэтым кірунку газэта „Змаганьне“ пайшла нам насустрэчу, зьмяшчаючы стацьці па каапэрацыі, па сельскаму гаспадарству (Пачопка), якія вельмі ахвотна чытаюцца сялянамі. Трэба было-бы часьцей зьмяшчаць табліцы, статыстычныя цыфры, розныя схэмы па разьвіцьцю народнае асьветы на Беларусі пад Польшчаю. Трэба пісаць аб культурнай працы, якая вядзецца беларускімі ўстановамі, аб беларускім музэю памяці Івана Луцкевіча, аб мучаніках за Беларусь. Трэба напамінаць людзям, што ў розных турмах гніюць людзі за жаданьне лепшае долі і волі беларускому народу. Трэба разбудзіць чытачоў, каб яны хоць раз у тыдзень пісалі аб сваіх радасьцях і крыўдах да рэдакцыі. Трэба памятаць, што каваЛямі свайго шчасьця можам быць толькі мы самі, бо ад апякуноў ласкі ніколі ня ўгледзіш. Трэба шанаваць адзінуюсваю беларускую газэту, бо і ёй, як і нам, жывецца ня вельмі соладка. Кожны беларус павінен браць прыклад з чэхаў, якія доўга былі паднявольнымі, змагаліся за сваю культуру, зьбіралі ахвяры і на хрысьцінах і на музыках, і на вясельлях і на вячорках дзеля падтрыманьня сваіх установаў. Цяпер мы бачым, што чэхі вольны народ і ня маюць жадных апякуноў над сабою. Чым болей аб сваей бядзе думаеш, тым скарэй да чаго-небудзь дадумаешся. Наша газэта „Змаганьне“ няхай будзе той пуцяводнай зоркай, якая давядзе беларускі народ да лепшае сьветлае будучыны. Жыві-ж „Змаганьне“, ды змагайся за долю і волю свайго пакрыўджанага лёсам народу.

**Трылісьцьнік.**

II.

У сувязі з хронікёрскай заметкай „Бандытызм у Віленскай Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі“, надрукаванай у № 11 „Змаганьня“, мы атрымалі пісьмо ад групы сэмінарыстаў, якія крыўдуюць за тое, што быццам-то газэта называе іх „бандытамі“ за захват Сэмінарыяй лавак Віленскае Беларускае Гімназіі і Урадовае Беларускае Пачатковае Школы, пры чым стараюцца перанесьці зроблены Сэмінарыі закід на.... Гімназію!

З прычыны таго, што закід узгадовываньня сэмінарскае моладзі ў духу „чыстага бандытызму“ адносіцца, як само сабой зразумела, *не да сэмінарыстаў*, мы ня друкуем пісьма поўнасьцю, тым больш, што ў ім робяцца зусім несправядлівыя і ў недапусьцімай форме напасьці на Беларускую Гімназію. Пераказываем толькі тую часьць пісьма, дзе вучні Сэмінарыі даюць сваё асьвятленьне выпадкам, апісаным у заметцы. Вось, што пішуць вучні Сэмінарыі:

„Беларускай Гімназіі штосьці стала цесна ў сваіх старых клясах і яна ачысьціла пад новую клясу пакой, які раней займаў адзін з іх настаўнікаў. Ведама, каб умэбляваць новую клясу, трэба былі лаўкі, а гімназія парожных на жаль ня мела. Тады па мудрай нарадзе парашылі ўзяць іх з клясаў, дзе займаецца Праваcл. Сэмінарыя. Легальна, ведама, гэтага яны зрабіць не маглі, бо Сэмінарыя, якой і самой не хватае лавак, не здаволіла-б іх жаданьняў. Трэба было шукаць іншага спосабу, і ён скора выдаўся. 25 лістапада, ў нядзелю, як сэмінарысты пайшлі ў царкву, служачымі ў гімназіі людзьмі лік лавак, патрэбны дзеля новай клясы, быў узяты з клясаў Сэмінарыі. У панядзелак, а 7 гадзіне раніцы, а. эканом Сэмінарыі, убачыўшы, што лавак не хватае, спаткаўшы першых вучняў, паслаў шукаць іх. Уведаўшы ад служачых аб учарашнім выпадку, яны пачалі забіраць іх з гімназіяльнай клясы“.

Гэтае „выясьненьне“, бязумоўна некім падыктаванае вучням Сэмінарыі, дае лішнюю ілюстрацыю, як сэмінарская ўлада прывучае вучняў ня толькі да непашаны чужое маемасьці, але і... праўды! Вось жа ўся справа ў тым, што лаўкі, якімі карыстаюцца сэмінарысты, *належаць да Беларускае Гімназіі*, якая, ведама, можа іх зусім *легальна* перастаўляць з клясы ў клясу ў меру патрэбы. Такая патрэба выявілася, як вынік незаконнага і гвалтоўнага захвату Сэмінарыяй клясаў Гімназіі *дзеля занятку сэмінарыстаўураніцы, а ня ўвечары, як было ўмоўлена ў пісаным дагаворы з Эпархіяльнай Радай*, Каб меншыя вучні Гімназіі маглі вучыцца, як і раней вучыліся, раніцай, трэба было зрабіць яшчэ адну клясу для Гімназіі ў пакоі, дзе раней жыў інспэктар гімназіі.

Як відаць, сэмінарскае кіраўніцтва, вядучы сэмінарыстаў на захват чужое маемасьці, *укрыла* перад імі праўду аб тым, да каго належаць лаўкі. Больш таго: „начальства“ Сэмінарыі павяло „атаку“ ня толькі на клясы Гімназіі, але і *на Урадовую Беларускую Пачатковую Школу*, што зьмяшчаецца на асобным паверху, і *захапіла там сілай усе лаўкі з аднае клясы*, хаця гэнымі лаўкамі сэмінарысты перш ніколі не карысталіся. Аб гэтым сэмінарысты ў сваім пісьме „дыпляматычна“ ўмаўчываюць, выдаючы інспіратараў пісьма...

Мы верылі, што моладзь Сэмінарыі ўцягіваецца сваімі кіраўнікамі ў розныя авантуры *несьвядома*, і дзеля гэтага—паўтараем яшчэ раз—ніякіх закідаў у нашай хронікёрскай заметцы па адрасу сэмінарыстаў ня было. Пісьмо іх у Рэдакцыю толькі ўзмацавала нашу веру ў гэта, бо паказала з усей яснасьцю, як кіраўнікі Сэмінарыі баламуцяць сваіх гадунцоў, укрываючы ад іх праўду аб адносінах між Сэмінарыяй і Гімназіяй.

## Сельска-гаспадарскія парады.

### Як вывандзіць кілбасы бяз дыму.

Вывандзіць кілбасы бяз дыму лёгка і скора можна гэткім спосабам. Трэба назьбіраць з печы (коміну) лепшай сажы і зсыпаць яе у якую-небудзь пасудзіну, а пасьля гэтую сажу заліць крутым варам. Калі сажа разойдзецца ў вадзе, яе трэба перацадзіць праз ня зусім густую тканіну. Перацэджаную юшку трэба пасаліць і разьліць у плыткую пасудзіну (можна у начоўкі, або у вялікую місу). У гэту пасудзіну з юшкай кладуцца кілбасы. Праз суткі кілбасы трэба дастаць з юшкі і павесіць дзе-небудзь, каб высахлі (найлепей вешаць на дварэ). Вывянджаныя гэткім спосабам кілбасы бываюць нават смашнейшыя, чым ванджоныя ў дыму. Гэтак можна вандзіць ня толькі кілбасы, але сала, мяса і кумпякі. Толькі іх у юшцы трэба трымаць даўжэй, так сутак 2—3.

**Я. П.**



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.